Год выданьня 67. № 625, Студзень - Люты 2017 г.

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

ISSN 1054-9455

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Association, Inc.

Postal address: P.O. Box 456 New York, NY 10025 USA
E-mail: bielarus@bazahq.org

***Шаноўныя чытачы!***

***Перад вамі першы ў гэтым годзе выпуск нашай газэты. Па розных прычынах выхад газэты затрымаўся, і зараз мы сустракаемся з вамі ўжо ў сакавіку. Месяц гэты для беларусаў асаблівы. Кожны год 25 сакавіка мы адзначаем Дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, гістарычнай падзеі, якая адбылася ўвесну 1918 году. З таго часу кожная вясна нясе нам новыя надзеі і спадзяваньні на тое, што наша краіна ўрэшце назаўсёды стане незалежнай, вольнай, дэмакратычнай дзяржаваю. Такія спадзяваньні маем і сёлета, калі наш народ рашуча выказвае адкрыты, масавы супраціў дыктатарскай уладзе.***

***Паўсюль у сьвеце беларускае дэмакратычнае грамадзтва рыхтуецца да Дня Волі. Дзевяноста дзевяты раз мы будзем ушаноўваць сваё нацыянальнае сьвята, а гэта азначае, што сёлетні Сакавік выводзіць нас на старт да падрыхтоўкі стогадовага юбілея. Стагоддзе абвяшчэньня незадежнасьці БНР павінна стаць для беларусаў вызначальным: ці адкрыем мы шырокую дарогу дзеля таго, каб пакрочыць у другое стагоддзе вольнымі і незалежнымі.***

***Гэты нумар газэты мы адчыняем Зваротам з нагоды Дня Волі старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы.***

***Ад імя Рэдакцыі газэты віншуем вас з надыходзячым Сьвятам. Пра тое, як адзначаць Дзень Волі беларусы ў замежжы і на Бацькаўшчыне вы прачытаеце ў наступным нумары газэты.***

***Рэдакцыя.***

# ДЗЕНЬ ВОЛІ!

## Зварот да беларускага народу

*Шаноўныя суродзічы, дарагія сябры беларусы!*

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам! У гэты дзень, 25 сакавіка 1918 г., пасьля доўгай няволі, калі вонкавы сьвет забыўся пра нашае існаваньне, народ наш заявіў, што хоча жыць у сваёй незалежнай дзяржаве.

Давялося чакаць яшчэ больш як сем дзесяцігодзьдзяў, пакуль Беларусь сталася ўсімі прызнанай дзяржавай, але калі б не было ў сакавіку 1918 году людзей, якія моцна верылі ў сваё права быць вольнымі на сваёй зямлі, – не здабылі б мы ў жнiўні 1991-га сваёй дзяржавы.

Дарагія сябры, праз год, 25 сакавіка 2018 г., мы адзначым 100–гадовы юбілей абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У нармальнай дэмакратычнай краіне, дзяржава рыхтавалася б да вялікага сьвята – але цяпер, на жаль, настрой не сьвяточны. У гэтым 2017 годзе наш край ізноў апынуўся пад пагрозай быць зьняволеным тым самым захопнікам. Разьвіцьцё апошнім часам падзеяў вельмі трывожнае. Перад мілітарызацыяй нашай зямлі расейскімі базамі і манэўрамі з удзелам тысячаў расейскіх вайскоўцаў, Беларусь успрымаецца Захадам верным саюзьнікам Масквы, і падзел паміж двума сьветамі пакідае нас шторазчасьцей на баку варожым нам імпэрыі. У выпадку вайны наш народ ізноў зробіцца першай яе ахвярай.




Зьвяртаюся сёньня да беларускага народу, у Беларусі і ўва ўсім сьвеце. Гэтак, як нашая гераічная моладзь, якая нядаўна бараніла Курапаты, скажыце ўсяму сьвету і прамаскоўскім хаўрусьнікам у Менску, што беларускі народ не зьбіраецца ізноў паміраць за чужыя імпэрыі, што край наш выбраў нэўтралітэт, калі ён меў магчымасьць выказаць сваю волю, і што ён быў уцягнуты ў варожую нам Эўразійскую зону, нягледзячы на гэтае жаданьне, выказанае ў Канстытуцыі.

У гэты вельмі неспакойны час, калі кожная дзяржава мае свае ўласныя клопаты і ня мае часу прыслухоўвацца да чужых праблемаў, цяжка пераканаць тых, хто гэтага ня ведае, што мілітарныя базы на сваёй зямлі мы ўспрымаем – як пагрозу незалежнасьці нашай дзяржавы.

Аднак пра гэта трэба гаварыць, трэба пісаць усім нам як індывідуальна, гэтак і калектыўна, ад імя беларускіх арганізацыяў, звароты да ўрадаў краінаў, дзе мы пражываем. Трэба рабіць усё магчымае, каб нас бачылі, каб нас чулі, каб ведалі, што народ наш ізноў пад пагрозай з боку суседа, злачынную небясьпеку якога сьвет нарэшце зразумеў. Трэба, каб лінія абароны Эўропы праходзіла ня ўздоўж заходняй мяжы Беларусі з Эўразьвязам, а ўздоўж мяжы ўсходняй – з Расеяй.

Дарагія мае суродзічы на Бацькаўшчыне, трэба, каб вы таксама заявілі сьвету, што вы ізноў быць калёніяй Масквы не зьбіраецеся. З сумам канстатую, што трэба быць героем, каб у Беларусі змагацца за волю нашай зямлі. З глыбіні сэрца віншую тых, хто гэта штодзёньна робіць. Сьвет пра вашае змаганьне ведае. Воля і Незалежнасьць Беларусі, у першую чаргу – у вашых руках!

*Жыве Беларусь!*

***Івонка Сурвілла,***
*старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*
*Сакавік, 2017 г.*

# Заклік да падтрымкі

***Беларусы ЗША заклікалі Джарэда Кушнера падтрымаць незалежнасьць Беларусі***

Незалежныя экспэрты гатовыя кансультаваць адміністрацыю прэзыдэнта ЗША ў пытаньнях стасункаў з Беларусьсю.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) заклікала новага прэзідэнта ЗША працягваць аказваць падтрымку незалежнай суверэннай Беларусі.

Пра гэта гаворыцца ў звароце БАЗА да Джарэда Кушнера, зяця і старэйшага дарадцы прэзідэнта Дональда Трампа.

«Заснаваная ў 1949 годзе, БАЗА інфармуе ўрад ЗША пра апошнія падзеі ў Беларусі і прапануе рэкамендацыі ў пытаннях палітыкі, — гаворыцца ў звароце. — З моманту прыходу Уладзіміра Пуціна да ўлады ў Расеі незалежнасьць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай, бо Крэмль актыўна пашырае сваю сфэру ўплыву, падрываючы права суседніх народаў на правядзеньне сваёй уласнай палітыкі. Яркім прыкладам гэтага з'яўляецца анэксія Крыма Расеяй, якая дэманструе, што Крэмль не прызнае міжнароднае права і кідае выклік інтарэсам ЗША ва Усходняй Еўропе. Многія беларускія амерыканцы сьцерагаюцца, што анэксія Беларусі можа адбыцца ў найбліжэйшай будучыні...




Экспэрты БАЗА пры першай жа магчымасці могуць Вас паінфармаваць пра падзеі ў Беларусі і рэгіёне, а таксама кансультаваць ў пытаньнях двухбаковых стасункаў паміж Беларусьсю і ЗША», — гаворыцца ў звароце.

Як вядома, сваякі Джарэда Кушнера — выхадцы з Навагрудка. Падчас Халакоста яны беглі з Навагрудзкага гета і хаваліся ў беларускіх лясах, дзе ўдзельнічалі ў партызанскім руху. Бацька Джарэда Кушнера некалькі разоў наведваў Навагрудак, куды прывозіў унукаў, каб распавесьці ім гісторыю сям'і.

***Вячаслаў Бортнік***
*Вашынгтон*

## Шаноўныя сябры!

**Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе вас з нашым вялікім нацыянальным Сьвятам - Днём абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі**



У вясновыя сакавіковыя дні 1918 году над нашай Бацькаўшчынаю ўзыйшла шчаслівая зорка – беларускі народ адрадзіўся да новага жыцьця, здабыўшы пасьля доўгіх часоў няволі ўласную адноўленую дзяржаўнасьць. Цягам дзевяноста дзевяці гадоў беларусы ў змаганьні, перашкодах і пакутах утрымлівалі ідэю дзяржаўнай незалежнасьці і дабіліся яе ўвасабленьня ў рэальнасьць. На жаль, наша самастойная краіна не сталася дэмакратычнаю і свабоднаю. Брутальны рэжым перапыніў разьвіцьцё нацыі і да сёньня ляжыць "бервяном" на шляху краіны ў лепшую будучыню.

Але, сёлетняя вясна дае нам надзею, што час панаваньня злых сілаў скончыцца, што наш абуджаны народ здолее разбурыць спарахнелую дыктатарскую ўладу. Гэта быў бы найлепшы вынік нашага змаганьня, з якім мы годна маглі б сустрэць у наступным годзе 100-гадовы юбілей Сакавіка.

Падтрымаем нашых братоў і сясьцёр на Бацькаўшчыне, якія сёньня выходзяць па цэлай краіне на акцыі пратэсту!

Нас, беларусаў на чужыне, сёньня так шмат, як ніколі не было раней. Мы застаемся і на чужыне дзецьмі нашай Бацькаўшчыны і наш абавязак быць з ёю ў гэты складаны час рашучага змаганьня за абарону нашай дзяржаўнасьці, свабоды і права "людзьмі звацца".

**Жыве Беларусь!**

## Беларуская школка ў Брукліне

Традыцыя арганізацыі беларускіх школак для навучаньня дзяцей роднай мове была заснаваная паваеннай хваляй эміграцыі яшчэ ў 50-я гады мінулага стагоддзя. З перапынкамі па розных прычынах яна працягнулася і да сёньняшняга часу. Гэты клопат цяпер узялі на сябе Парафія Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага і Бруклінскі аддзел БАЗА. Знайшліся добрыя настаўнікі і справа паволі зачала рухацца. Заняткі праходзяць кожную нядзелю ад 10 гадзін раніцы ў будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Брукліне. Для бацькоў, якія хочуць наведваць багаслужбы ў царкве, ёсьць зручнасьць пакінуць на гэты час дзяцей на занятках у школцы. На жаль, пакуль дзетак яшчэ не так шмат, новыя эмігранты неяк не адчуваюць у большасьці патрэбу ў нацыянальным выхаваньні сваіх нашчадкаў, што цягнецца яшчэ з Беларусі.



Нядзельная школка дае дзецям не толькі навыкі роднай мовы, але таксама прадстаўляе магчымасьці для агульнага разьвіцьця дзіцяці ў іншых накірунках. Настаўніцы вучаць дзетак маляваць, рабіць нейкія мастацкія вырабы ў народным стылі, развучваюць з імі вершы і беларускія песьні.

Дзеці з ахвотаю наведваюць заняткі, вопытныя настаўніцы змаглі іх зацікавіць. Бацькі ўдзячныя настаўніцам – Іне Голік і Алене Пракоп за іх надзвычайную руплівасьць і адказнасьць, за іх шчырыя сардэчныя адносіны да дзяцей. Абедзьве яны маюць практычны вопыт працы з дзецьмі яшчэ з Беларусі і бачна, што яны самі задаволеныя тым, што могуць прымяніць яго тут на эміграцыі.

Беларуская школка запрашае бацькоў-беларусаў у Нью-Ёрку таксама пачаць прыводзіць сваіх дзяцей на заняткі, дзе ім будзе цікава і карысна набываць новыя веды і так не губляць сувязь з краінаю паходжаньня іх родзічаў.

*Ганна Сурмач*

# Ці чакаць нам бунту?

17 студзеня 2017 у Менску прайшла самая шматлікая за апошнія шэсьць гадоў акцыя пратэсту – "Марш годнасьці" ці "Марш раззлаваных беларусаў". Па розных ацэнках у акцыі бралі ўдзел ад паўтара да трох тысяч чалавек. Пратэставалі супроць дэкрэта "Аб сацыяльным дармаедстве", але не толькі супроць яго, гучала і "Лукашэнку ў адстаўку!", "Вярніце свабодныя выбары!"

Праз два дні падобныя маршы прайшлі ва ўсіх абласных гарадох. У рэгіёнах акцыі сабралі ад некалькіх соцен да тысячаў удзельнікаў. Прыемна зьдзівіў Гомель, дзе на марш выйшлі не менш, а можа нават і болей, чым у Менску. Прычыны такой актыўнасьці дакладна не вызначаныя, але, відаць, "дармаедаў" там асабліва "дапяклі".

Увогуле, мяркуючы па суадносінах колькасьці ўдзельнікаў маршаў у Менску і рэгіёнах, відавочна, што ўладам яшчэ ўдаецца забясьпечыць занятасьць і больш-меньш прымальны ўзровень жыцьця ў сталіцы, а вось у рэгіёнах рэсурсаў ужо не застаецца. Пратэст там набірае хуткасьць больш імклівa і гэта пры характэрнай раней пасыўнасьці насельніцтва.

Усе акцыі пратэсту адбыліся мірна, без сілавога супроцьдзеяньня з боку ўладаў. Тлумачыцца гэта з аднаго боку – адносна невялікай колькасьцю ўдзельнікаў, а з другога боку – слабасьцю пазыцый Лукашэнкі ў гэты час. Глыбокі эканамічны крызыс накладаецца на пагаршэньне адносінаў з пуцінскаю Расеяй. У такой сытуацыі разгон мірнай акцыі пратэсту зьвёў бы да нуля і без таго малыя шанцы на атрыманьне чарговага заходняга крэдыту "на падтрымку порткаў" ад МВФ. А цяпер грошы ўладам патрэбныя як ніколі да гэтага.

Як раней я ўжо пісаў у артыкуле "Плошча, як сымбаль пратэсту", адзіны рэлевантны паказчык пратэстных настрояў у Беларусі – гэта масавасьць і частата правядзеньня акцый пратэста.

Мікола Статкевіч намацаў правільную балючую кропку дыктатара: ніякія 65 ці 100 тыс. сабраных грамадзянамі подпісаў не прымусяць Лукашэнку адмяніць свой антынародны дэкрэт, а вось некалькі дзесяткаў тысяч пратэстоўцаў зробяць гэта лёгка, а калі зьбярэцца некалькі сотняў тысяч, то яны змогуць ліквідаваць не толькі дэкрэт, але і самога дыктатара.

Безумоўна, праведзеныя акцыі пратэсту – значны посьпех у барацьбе з рэжымам, але абавязаны мы за гэта не толькі апазыцыі, але і асабіста Аляксандру Лукашэнку. Улады зрабілі ўсё магчымае, каб раззлаваць людзей, фактычна яны разаслалі 470 тыс. індывідуальных запросінаў выйсьці на акцыі пратэста, падмацаваўшы іх пагрозаю атрымаць штраф ці 15 сутак у выпадку неаплаты гэтага пабору.




Усё ж, у нас – беларусаў, незвычайна высокі "балявы парог", нягледзячы на намаганьні апазыцыі і ўладаў, на мітынгі выйшлі не больш 5 адсоткаў "дармаедаў" ад тых 470 тыс. Аднак, гэта можа быць толькі пачатак.

Як вядома, у беларусаў багатая партызанскае мінулае, і яно пакінула сьлед у нашых сэрцах. Кожны партызан напачатку дзейнічае скрытна, не ўступае ў адкрыты бой з ворагам, пакуль на гэта няма крайняй патрэбы.

Выглядае, што крайняй патрэбы грамадзтва яшчэ не адчувае, і на адкрытую прастору плошчаў выходзяць толькі самыя сьмелыя і рашучыя. Астатнія дзейнічаюць скрытна і проста сабатуюць аплату падатка. Так, па стану на 20 лютага, а гэта апошні дзень упалаты пабору, яго заплацілі толькі 11 адсоткаў "дармаедаў". Такім чынам, каля 420 тыс. чалавек адправілі атрыманыя "пісьмы шчасьця" у сьметніцы, разважыўшы, што ўлады абыйдуцца без іх фінансавай падтрымкі.

А тым часам гэтыя 420 тыс. неплацельшчыкаў складаюць каля 10 адсоткаў ўсяго эканамічна актыўнага насельніцтва краіны, так што можна сказаць, што ўжо ў кожнай чацьвёртай, ці нават трэйцяй беларускай сям'і не абыйшлося без "дармаеда".

Стала зразумела, што ў дабраахвотным парадку грамадзяне гэты грабежніцкі пабор плаціць не будуць і гэтым яны загналі Лукашэнку ў становішча "цуцванга".

"Цугцванг", напомню – гэта сытуацыя ў шашках ці шахматах, пры якой любы ход гульца вядзе толькі да пагаршэньня ягонай пазыцыі. Па просту кажучы – гэта безнадзейнае становішча, любы ход беларускіх уладаў будзе іграць супроць іх.

На першы погляд здаецца, што найбольш разумна пайсьці на саступкі і адмяніць дэкрэт, вярнуць грошы тым, хто заплаціў падатак. Але, як будзе выглядаць сам прэзыдэнт, могуць падумаць, што ён "прагнуўся" перад дэманстрантамі, а гэтага ён прызнаць не можа, бо занадта балюча ўспрымае любыя спробы "нагнуць " яго, пра што не раз публічна заяўляў. Таксама праблема – ў пратэстуючых можа вырасьці апетыт і ў наступны раз яны ўжо патрабуюць адмяніць яшчэ нешта, напрыклад, фальсіфікацыю выбараў.

Ёсьць другі варыянт – заплаціўшым грошы не вяртаць, а з астатніх не патрабаваць. Але ж, калі дэкрэт не адмяняць, то ў наступным годзе дакладна ніхто не заплаціць. Тыя ж, хто заплаціў, напэўна, не забудуць такую несправядлівасьць і падтрымкі ад іх уладам чакаць не давядзецца.

Нарэшце, ёсьць і трэйці варыянт, на жаль, найбольш верагодны – улады ізноў выберуць сілавы варыянт ў адносінах да пратэстоўцаў. Гэта значыць, што ў кожную сям'ю, якая мае "дармаеда", прыдуць судовыя выканаўцы і міліцыянты і паспрабуюць накласьці арышт на маёмасьць, ці забраць на 15 сутак для прымусовай працы.

Мне падаецца, што калі ўлады выберуць трэйці сцэнарый, раз'яраныя партызаны могуць вырашыць, што далей адступаць няма куды і такі выйдуць з беларускіх лясоў.

У гэтым выпадку мала не падасца ўжо нікому...

*Яўген Папкоў*
*Нью-Ёрк*

# Як са «Скарынаўкай» у Менску пазнаёміліся



Сёлетняя XXIV Мінская кніжная выстава-кірмаш, акрамя звычайных для такога мерапрыемства падзей, прынесла нямала цікавых уражаньняў. Адным з іх стала ўнікальная экспазыцыя Беларускай бібліятэкі і музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане, на якім можна было пазнаёміцца са скарбамі беларускага кнігавыданьня і рарытэтамі, якія там захоўваюцца.

Ролю гэтай легендарнай культурніцкай установы не раз адзначалі пад час разнастайных мерапрыемстваў сёлетняй Мінскай кніжнай выставы-кірмаша, як гэта было пры яе афіцыйнай прэзэнтацыі і «круглага стала» у Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь «Беларускія кніжныя калекцыі ў Вялікабрытаніі». Гэтак як і пад час літаратурнай імпрэзы «Падарожжа са словам», якая адбылася ў Літаратурным музэі Максіма Багдановіча ў Менску.



Асноўнай тэмай гэтай сустрэчы стаў стан перакладной літаратуры ў Беларусі і роля перакладчыка ў наладжваньні літаратурных сувязяў паміж народамі. У прыватнасьці, англа-беларускіх і беларуска-ангійскіх, пачынальніцай якой стала знакамітая перакладчыца, паэтка і журналістка Вера Рыч (1936-2009), якая доўгія гады падтрымлівала цесныя сувязі са «Скарынаўкай».

Гэта і падкрэсьліла ў сваім вітальным слове да ўдзельнікаў імпрэзы Амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі спадарыня Фіёна Гіб, якая адзначыла вялікую ролю літаратуры і літаратараў у справе наладжваньня мастоў разуменьня паміж нашымі народамі. Таксама, Амбасадар адзначыла выключную ролю брытанскай грамадзянкі Веры Рыч, якая ахвяравала свой талент для таго, каб англамоўныя чытачы па ўсім сьвеце як мага шырэй даведаліся пра творчасьць Багдановіча, Купалы, Коласа і іншых беларускіх, а таксама і ўкраінскіх паэтаў-клясыкаў.

На заканчэньне свайго выступу спадарыня Фіёна Гіб прадэкламавала верш Максіма Багдановіча «Па над белым пухам вішняў...» у перакладзе Веры Рыч на ангійскую мову.

Сваімі ўспамінамі пра сустрэчы з Верай Рыч падзяліўся прадстаўнік Скарынаўскай бібліятэкі, сакратар бібліятэчнага савета Ігар Іваноў. Спадар Іваноў распавёў пра рысы характару перакладчыцы, пра тое, як яна апякавалася студэнтамі, якія вывучалі славістыку ў Лёндане. Вялікую цікавасьць у слухачоў выклікаў расповяд І.Іванова пра выданьне паэтычнай анталёгіі «Like Water, Like Fire» з перакладамі твораў клясыкаў беларускай паэзіі, якая пабачыла сьвет у 1972 годзе і была забаронена ў Беларусі.

Аналіз творчасьці Максіма Багдановіча і верш «Па над белым пухам вішняў...» прагучаў з вуснаў мастацтвазнаўцы Мікіты Моніча. Пісьменнік і перакладчык Альгерд Бахарэвіч узгадаў даўнія сустрэчы з Верай Рыч, а таксама прачытаў апавяданьне «Мой лепшы дзень», у якім перакладчыца ўспамінала той дзень, калі яна пазнаёмілася з дзецямі беларускай эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

Праблематыка якасьці тэксту была ўзьнята вядомай перакладчыцай Ганнай Янкутай, якая прадставіла новыя кнігі англамоўных аўтараў, выдадзеных апошнім часам па-беларуску. Сярод іх Г.Янкута зьвярнула ўвагу на такія кнігі, як «Замак Отранта» Хораса Уолпала (пераклад Г.Янкуты), «Франкенштайн» Мэры Шэлі (пераклад М.Дзергачовай). Сярод новых выданьняў Г. Янкута адзначыла «Прыгоды Шэрлака Холмса» (2014) і «Нататкі Шэрлака Холмса» (2015) А. Конан-Дойла, апошняя з якіх была выдадзена дзякуючы краўндфандынгавай кампаніі.

Артыстычную прэзентацыю знакамітай кнігі Льюіса Кэрала «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» пабеларуску зладзіла перакладчыца Вера Бурлак. Для тых, хто не ўяўляе, як можа гучаць па-беларуску філязофскі твор Л.Кэрала, Вера Бурлак зладзіла сапраўдны пэрформанс – у сваім тэатралізаваным стылі выканала ўрывак казкі пад назвай «Мармазяўр», чым, без сумненьня, уразіла і зацікавіла аўдыторыю.

Яшчэ адзін аспект перакладчыцкай дзейнасьці – музычны агучвы лідэр гурта N.R.M. Піт Паўлаў, які разам з цымбалісткай Алесяй Шагун выканалі шэраг беларускамоўных кавэраў на хіты сусьветнавядомых рок-зорак. Прагучалі песьні «Толькі каханьне» (Freelove) з рэпэртуару гурту Depeche Mode і «Сродак і мэта» (Nothing Else Matters) ад Metallica. Скончылі свой сэт музыканты кавэрам на адну з кампазыцый польскага гурту Myslovitz, засьпяваўшы словы гэтай песьні разам з усімі прысутнымі.

***Анатоль Мяльгуй***
*Менск*

# Вінцук Вячорка ў Нью-Ёрку



Прыезд з Беларусі сп. Вінцука Вячоркі, вядомага мовазнаўцы, грамадзкага дзеяча, аўтара праграмы на Радыё Свабода «Па-беларуску з Вінцуком Вячоркам», прыцягнуў увагу беларусаў Нью-Ёрка і ваколіцаў.

У нядзелю 29 студзеня ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Брукліне Вінцук Вячорка прэзэнтаваў сваю кнігу, створаную паводле матэрыялаў аднайменнай перадачы мовазнаўцы на Радыё Свабода.

Сустрэчу ладзіла Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). На імпрэзу сабраліся амэрыканскія беларусы з розных суполак і арганізацыяў, у тым ліку старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк і бард Сяржук Сокалаў-Воюш.

Гаворка ішла пра беларускую мову і яе значэньне ў фармаваньні светапогляду чалавека. Людзі, якія жывуць у чужым моўным асяродзі, найбольш востра адчуваюць патрэбу ў роднай мове. Таму сустрэча праходзіла пры актыўным удзеле слухачоў, прысутныя задавалі шмат пытаньняў.

Вінцук Вячорка не толькі распавёў пра гісторыю і развіцьцё беларускай мовы, але і заахвоціў слухачоў паўдзельнічаць у апытанках і тэстах.

Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы.

***Сьвятлана Казачок,***
*фота Віктара Дударава*



# Імпрэзы ў Вашынгтоне

1 лютага ў Вашынгтоне прайшла прэзэнтацыя новай кнігі "Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам" з удзелам аўтара, а таксама канцэрт знакамітага беларускага барда Зьмітра Вайцюшкевіча. На імпрэзу, арганізаваную Вашынгтонскім аддзелам БАЗА, сабралася каля 40 беларусаў ды іх сяброў.



# Сьв. памяці Антона Шукелойца

## (19 ліпеня 1915 - 7 студзеня 2017)

Доўгае і плённае жыцьцё выбітнага беларускага грамадзкага дзеяча ў ЗША Антона Шукелойца завершыла ў сымбалічны час - у Калядную ноч, калі ўсе праваслаўныя беларусы сустракалі вестку пра Божае нараджэньне. Сваім адыходам у вечнасьць ён як бы саступаў дарогу новым пакаленьням змагароў за беларускую справу, якім наканавана працягнуць тое, чаму ён так аддана служыў.

Антон Шукелойц нарадзіўся ў вёсцы Якелеўшчына Ашмянскага павета Віленскай губерніі ( цяпер - Ашмянскі раён Гарадзенскай вобл. ) у сялянскай сям'і Антона і Бенедыкты з Пецюкевічаў. Бацька меў гаспадарку і гандляваў лесам. Скончыўшы Жупранскую пачатковую школу, паступіў у Ашмянскую польскую гімназію. У 1939 годзе скончыў аддзяленьне славянскай філялёгіі і этнаграфіі гуманітарнага факультэта Унівэрсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Пад час вучобы працаваў ва унівэрсітэцкім этнаграфічным музэі, выязджаў для збору матэрыялаў у розныя мясьціны Беларусі.







У маладосьці далучыўся да беларускага грамадзкага руху, пад час вучобы ў гімназіі быў сябрам Беларускага гуртка сацыялістычнай моладзі, якім кіраваў вядомы ашмянскі сацыялістычны дзеяч адвакат Аляксандр Барановіч. У Вільні ўваходзіў у гурток студэнтаў, якія выдавалі часапіс беларускай сацыялістычнай думкі «Золак», ідэялягічна набліжаны да эсэраў. Ва унівэрсітэце быў сябрам беларускіх студэнцкіх арганізацый: Беларускага студэнцкага саюза, Таварыства прыяцеляў беларусаведы (у апошнім быў старшынём). Сьпяваў у беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы.

Пасьля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г. А. Шукелойць працаваў настаўнікам на Ашмяншчыне. Арганізаваў у Ашмянах першую беларускую сярэднюю школу, настаўніцкія курсы і каля 90 беларускіх школ на тэрыторыі былога Ашмянскага павета. Выкладаў беларускую мову ў гімназіі, дзе раней вучыўся сам. У 1940 г. стаў дэпутатам Ашмянскага гарадзкога савета, загадчыкам гарадзкога аддзела народнай асьветы і школьным інспэктарам-мэтадыстам Ашмянскага раёна.

За сваю беларускую дзейнасьць пранасьледаваўся савецкімі ўладамі, 23 чэрвеня 1941 быў арыштаваны органамі НКУС. З турмы вызваліўся разам з іншымі вязьнямі пад час налёту нямецкай авіяцыі. У часы нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле асьветы і культуры Менскай гарадзкой управы, дзе ўпарадкоўваў архівы ЗАГСа, часткова зьнішчаныя ў выніку ваенных дзеяньняў. Пазьней стаў загадчыкам Беларускага гістарычнага музэя (потым - Краязнаўчы музэй). Пасля арганізацыі ў Менску Беларускага культурнага згуртаваньня А. Шукелойца прызначылі кіраўніком аддзела краязнаўства галоўнай управы. Займаў пасаду школьнага інспэктара пры аддзеле Беларускай Цэнтральнай Рады.

Перад надыходам Чырвонай арміі пакінуў Беларусь і выехаў у Нямеччыну. Пасьля вайны працаваў у сістэме адукацыі ў лягерох для перамешчаных асобаў (DP). Спрабаваў адшукаць у Баварыі сляды вывезеных туды беларускіх музэйных каштоўнасцяў. Напачатку 1950-х гг. пераехаў у ЗША. Працаваў таваразнаўцам пры Інстытуце вытворчасьці моды, у краме вопраткі «Орбах».

Сп. Шукелойц быў адным з самых актыўных ўдзельнікаў нацыянальнага жыцьця беларускай дыяспары ў Амэрыцы, найперш, ў Нью-Ёрку, дзе жыў стала да апошніх дзён. Цягам 32 гадоў ён узначальваў старэйшую беларускую грамадзкую арганізацыю - Беларуска-Амерыканскае Задзіночаньне я(БАЗА), створаную ў 1949 годзе. Сп. Шукелойц быў сябрам Рэдакцыі газэты «Беларус», шматгадовым сябрам Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНІМ). Ён - аўтар дзясяткаў артыкулаў, успамінаў, некралёгаў, апублікаваных у газэтах «Бацькаўшчына» і «Беларус».

Цягам усяго свайго жыцьця сп. Антон Шукелойц ў любых самых неспрыяльных варунках знаходзіў магчымасьць працаваць дзеля беларускай справы, дзеля захаваньня беларускай нацыянальнай ідэі, беларускай культуры і мовы. Быў добрым прыкладам для некалькіх пакаленьняў беларускіх эмігрантаў, як годна трымаць на чужыне імя беларуса, як годна прадстаўляць сваю Бацькаўшчыну перад іншымі народамі.



Наш кліч "Жыве Беларусь!" быў лёзунгам уласнага жыцьця сп. Шукелойца, цалкам прысьвечанага служэньню свайму народу.

Сп. Шукелойц, будучы ўжо ў пад стогадовым узросце наведваў беларускія імпрэзы ў Нью-Ёрку, выступаў з прамовамі і ўспамінамі. У ліпені 2015 году ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 урачыста быў адзначаны 100-гадовы юбілей ветэрана з ягоным асабістым ўдзелам. Далей стан здароўя ўжо не дазваляў яму прысутнічаць на беларускіх зборках, але ён не траціў кантактаў з беларускай грамадою, размаўляў з многімі сябрамі па тэлефоне, цікавіўся навінамі, дзяліўся ўспамінамі, даваў парады, чытаў газэту "Беларус".

Разам з Антонам Шукелойцам адыйшла ў вечнасьць цэлая эпоха ў беларускім нацыянальным руху, якую прадстаўлялі моцныя духам людзі, адданыя патрыёты, змагары, носьбіты лепшых рысаў беларускага характару.

Галоўная управа БАЗА, Парафія Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, Бруклінскі аддзел БАЗА зрабілі ўсё









свайго амэрыканскага жыцьця пражыў менавіта ў Нью-Ёрку, на Мангэтане, любіў і добра ведаў горад, таму было вельмі важна ўшанаваць ягоную памяць і тут. Сп. Шукелойц быў каталіком, але шмат гадоў ён наведваў наш праваслаўны сабор, быў



магчымае, каб належным чынам ушанаваць памяць ветэрана, годна правесьці яго ў апошні шлях. На разьвітаньне са сп. Шукелойцам 14 студзеня ў Пахавальны дом Малішэўскага ў Нью Джэрзі прыйшло шмат людзей. Беларуская грамада праводзіла труну з целам, пакрытую бел-чырвона-белым сьцягам, на беларускія могілкі ў Іст Брансуіку, дзе і адбылося пахаваньне. Антон Шукелойц знайшоў свой апошні супачын сярод іншых вядомых беларускіх дзеячаў, пахаваных на гэтых могілках.

На памінальнай вячэры ў грамадзкай залі беларускай Царквы Сьв. Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд Парку гаварылася шмат добрых словаў пра супачылага, са зьмястоўнай прамоваю выступіў сп. Янка Запруднік, які шмат гадоў супрацоўнічаў са сп. Шукелойцам у беларускіх справах. Прамаўлялі таксама Зянон Пазьняк, Віталь Зайка, Сяргей Капытка, Ала Рамана.

На наступны дзень памінальная імпрэза адбылася і ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Нью-Ёрку. Сп. Шукелойц увесь перыяд на багаслужбах, уклаў грошы у куплю гэтага будынку. Пасьля памінальнай паніхіды прысутныя маглі пабачыць відэа з запісамі прамоваў сп. Шукелойца, падзяліцца ўспамінамі, згадаць свае асабістыя кантакты з ім.

Для мяне адыход сп. Шукелойца стаўся вялікай стратаю. Цягам усіх гадоў жыцьця ў Нью-Ёрку я вельмі часта кантактавала з ім, сустракалася, размаўляла, слухала ягоныя парады, наведвала яго ў доме састарэлых. Часам ён адтуль тэлефанаваў мне, і мы доўга размаўлялі пра розныя аспэкты беларускай дзейнасьці. Я шмат даведалася ад яго пра беларускі рух у Заходняй Беларусі, пра даваенную Вільню, пра часы нямецкай акупацыі. Як для гісторыка, расповяды сп. Шукелойца былі для мяне невычэрпнай крыніцаю ведаў. Ён заўсёды маральна падтрымліваў, надаваў сілы для далейшай працы.

Сп. Антон пакінуў мне цудоўную памятку пра наша сяброўства. Амаль кожны раз пад час нашых размоваў ён згадваў, што вось на стале ў яго ляжыць мая кніга "Беларусь бяз межаў", што ён ноччу, калі не сьпіцца, адчыняе любую старонку, чытае і знаходзіць нешта цікавае для сябе. Яго вельмі ўражвала, як шырока беларусы расьсяліліся па сьвеце. І вось гэтая зачытаная кніжка - цяпер найдаражэйшы ўспамін пра чалавека, які пакінуў незабыўны сьлед у маім жыцьці і, мяркую, у жыцьці кожнага, хто яго ведаў.

Вечная памяць слаўнаму сыну Беларусі!

***Ганна Сурмач***







# Былы менчук на Уол Стрыт

***Імя гэтага чалавека – Ігар Тульчынскі, ён зьяўляецца зоркаю аднаго з самых буйных хедж-фондаў Уол Стрыт – Millennium Management LLC.***

***Ігар Тульчынскі валодае важнай у фінансавым сьвеце прафесіяй – квант, спецыяліст, хто ўмее аналізаваць фінансавую інфармацыю і будаваць на яе аснове матэматычныя мадэлі, якія дазваляюць прагназаваць накірункі руху фінансавых рынкаў.***



Millennium Management LLC, з якім зьвязана дзейнасьць Ігара, – гэта фонд, што мае пад сваім кіраўніцтвам актывы інвестараў на 34 млрд. даляраў, уласьнікам яго зьяўляецца вядомы мільярдэр Ізраэль Інгландэр. З гэтай колькасьці актываў партфэлем у 4,5 млрд. кіруе кампанія WorldQuant, шэфам якой цяпер ёсьць якраз Ігар Тульчынскі. Офіс WorldQuant знаходзіцца ў горадзе Грынвіч, штат Каннэктыкут.

Ігару 49 гадоў, як і іншыя людзі ягонай прафесіі, ён скрытны, пра ягонае жыцьцё нават мала ведаюць калегі па бізнэсу, носіць пераважна адзеньне чорнага колеру, вядомы сваёй брытай галавою і залатым ланцужком на шыі.

Аднак, Ігар не робіць сакрэту з места свайго паходжаньня. Нарадзіўся ён у Менску ў 1966 годзе. Ягоны бацька Аляксандр вырабляў скрыпкі, а маці – піяністка. Яны эміґравалі разам з сынам у ЗША у 1977 годзе. Хлопец не захапляўся музыкаю, яго больш прыцягвалі новыя тэхналёгіі і ён вывучыўся на кампутарнага праграміста. Ігар скончыў Тэхаскі ўніверсытэт ў Осціне, вучыўся ва ўніверсытэце Пенсільванія і атрымаў адукацыю у сфэры фінансаў і бізнэса.

У 1988 годзе яго запрасілі ў кампанію AT&T Bell Laboratories, як навукоўца і дасьледчыка. Потым ён працаваў у Timber Hill Group LLC, вывучаў кампутарныя стратэгіі інвеставаньня і распрацоўваў алгарытмы.

У 1995 годзе Тульчынскі далучыўся да Millennium Management, дзе хутка дасягнуў посьпехаў і ўвайшоў у склад найбольш паважаных працаўнікоў кампаніі.

У 2007 годзе Ігар ўжо заснаваў уласную WorldQuant. Цяпер гэта кампанія мае 20 офісаў па цэлым сьвеце і больш за 500 супрацоўнікаў.

Кампанія Тульчынскага пастаянна працуе з маладымі талентамі. Створаны нават WorldQuant University, у гэтым годзе ў ім налічваецца 200 анлайн-студэнтаў з больш чым 30 краінаў. Заснаваны і адмысловы WorldQuant Foundation, які прысуджае стыпендыі таленавітым студэнтам у галіне матэматыкі і робіць ахвяраваньні па цэлым сьвеце.

Ігар сам сутракаецца са студэнтамі, адказвае на іх пытаньні. У адным са сваіх выступаў ён распавёў, як ва ўзросьце 9 гадоў жыў у Менску – халодным горадзе, дзе бывае шмат сьнегу:

"У той момант мне ўяўлялася, што жыцьцё маё цалкам пройдзе ў Беларусі. Уладкуюся на нейкую працу. У мяне была сяброўка з нашага двара Наташа і я думаў, што ажанюся з ёю".

Далей Тульчынскі запытаў у аўдыторыі, што яны думаюць, наколькі збыліся гэтыя пляны? І сам адказаў: "Ноль адсоткаў".

Далей ён працягнуў свой аповяд: "У 15 гадоў я ўжо жыў ва Уічыта, штат Канзас. Працаваў мойшчыкам посуду ў стэйкхаўзе ды й ізноў зьбіраўся ажаніцца, гэтым разам з дзяўчынаю імем Кэты, якая працавала на кухні".

Ізноў задаў пытаньне: "Наколькі збыліся гэтыя пляны?". Адказ быў такім жа: "Ноль адсоткаў".

Працягнуўшы апісваць сваё далейшае жыцьцё ў такім жа ракурсе, Ігар зрабіў жартоўнае падсумаваньне, што ён ніколі не быў добрым прадказальнікам, хаця цяпер менавіта гэта ягоная прафесія. А потым заключыў ужо больш сур'ёзна:

"Усё, што я хачу сказаць: пляны будаваць трэба, яны даюць агульны накірунак. Але, амаль ніколі не выконваюцца. І гэта нармальна. Мы павінны пастаянна адаптавацца да асяроддзя, мяняць пляны ў адпаведнасьці з паступаючай новай інфармацыяй, выкарыстоўваць усе шанцы, прымаць рашэньні і дзейнічаць".

Ігар Тульчынскі – аўтар кнігі пра колькасны падыход да пабудовы трэйдынгавых стратэгій

***Ганна Сурмач***

# Беларускія карані "Каралевы эльфаў"

***Зорка Галівуда Лів Тэйлар і яе бацька Стывэн Тэйлар – лідэр знакамітага амэрыканскага рокгурта Aerosmith зьяўляюцца нашчадкамі беларускага пісьменьніка Флярыяна Чарнышэвіча.***

***Раман Флярыяна Чарнышэвіча «Надбярэзінцы» пра жыцьцё засьцянковай шляхты паміж Дняпром і Беразінаю напачатку 19 ст. выйшаў сёлета ў перакладзе на беларускую мову.***



Флярыян Чарнышэвіч нарадзіўся ў Бабруйску. Ягоны родны брат Фелікс – гэта дзед Стывэна і прадзед Лів Тэйлараў. Фелікс нарадзіўся у Клічаве ў 1892 годзе і ў 1914 годзе выехаў у Амэрыку, праходзіў праз іміграцыйны цэнтр на востраве Эліс. У ЗША Фелікс зьмяніў свай родавае прозьвішча на іншае – Бланча (Blancha).

Жыў у Нью-Ёрку, тут ажаніўся з Бэссі Эллиот, у сям'і нарадзіліся чацьвёра дзяцей, сярод іх была Сьюзэн – маці Стывэна Тэйлара. Сьюзэн выйшла замуж за італьянскага піяніста Віктара Талерыко, іхны сын Стывэн нарадзіўся ў 1948 годзе, ён пераняў бацькаў музычны талент і стаў суперзоркаю амэрыканскага року.

Дачка музыкі, кінаартыстка Лів Тэйлар сыграла ролю каралевы эльфаў Арвены ў знакамітым фільме "Уладар пярсьцёнкаў", які атрымаў 17 статуэтак «Оскар».




Стывэн і Лів ведаюць сваю сямейную гісторыю і адкуль паходзілі іх продкі. Пра гэта ім паведаміла амэрыканская пісьменьніца Меган Смаляняк, дасьледчыца ў галіне генеалёгіі. Яна падаравала нашчадкам адну з кніг Флярыяна Чарнышэвіча.

Фелікс памёр у 1987 годзе. Ягоны брат Флярыян жыў у Аргентыне, дзе браты сустракаліся ў 1950 годзе.



Фелікс (зьлева) і Флярыян Чарнышэвічы, 1950 год

ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

# ЭСКОРТ

## Апавяд-быль

I

Як звычайна, у нядзелю па абедзе, мае мінчукі ад'язджаюць у горад. Дачку і зяця чакае праца, унука – вучоба. У кожнага свае гарадзкія клопаты.

"Ну што, эскорт гатовы?" – дачка Тацьцяна зірнула на сабаку Пальму, якая ўселася паперадзе машыны, высалапіла язык, пазірала на ўсіх сьветларудымі, нібы спелы агрэст, вачыма, віляла хвастом, быццам хацела сказаць:

"Развітвайцеся хутчэй. Пара ехаць. Я даўно чакаю".

Пальма падбегла да Тацяны, узнялася на заднія лапы, быццам хацела абняць на развітаньне, цаляла лізнуць руку.

"Усё, Пальма. Не трэба тваіх абдымкаў. Бывай! Сцеражы дом".

Нарэшце машына кранаецца, спераду бяжыць Пальма. І не проста трухае, як сабака за возам, бяжыць прыгожа, высокімі скачкамі, азіраючыся назад. Калі машына тармазіць перад калдобінамі, Пальма таксама прыцішае бег.

Праводзіць яна гасцей да жвіроўкі-гравійкі, а гэта з кіламетр, прыблізна гэтулькі бяжыць па жвіроўцы. Машына прыбаўляе хуткасць, Пальма заварочвае направа, садзіцца на ўзбочыне. Зяць, кіроўца, сігналіць на разьвітаньне, Пальма сьцішана вые, матляе хвастом. От, цікава б ведаць, пра што яна думае? Мабыць, узгадвае сваё ранейшае жыцьцё, калі яна жыла ў іншых гаспадароў, і было ў яе іншае імя, пра якое мы ніколі не даведаемся. А гісторыя вось якая.

II

Неяк напрадвесьні прыблілася да нас бадзяжная сучка. Наш Рэкс пасябраваў з ёй, калі не дадаў у місе, то яна падчышчала. Страшэнна худая, можна палічыць скабы, абцягнутыя рудою бруднаю поўсьцю, чырвоныя вочы спалохана пазіралі на сьвет і людзей, чакалі ад іх дабрыні і спагады. Але, ўсе вяскоўцы яе ганялі: у таго зьесць кацінную яду, у таго ўкрадзе курынае яйка. Трохі падсілкаваўшыся, сучка імчала да жвіроўкі і бегала паўз яе да цёмнага, быццам чакала, што гаспадары вернуцца, забяруць яе. Але, гаспадары не паяўляліся, затое вяскоўцы усё часцей казалі мне:

"Ну, Вы ж паляўнічы. Няўжо не можаце застрэліць гэтую бадзягу? Надакучыла ганяць яе з падворка. Усё крадзе. Усюды лезе".

Асабліва злавалася баба Юля.

"Штодня крадзе яйкі. Кошцы дам есць, а гэтая набрыдзь тут як тут. Зрабіце з ёй што-небудзь... Стрэльба ж у вас ёсць... Унукі прыязджаюць, а яна, можа, заразная..."

Мне таксама даводзілася праганяць прыблудную сучку. Карміць двух сабак я не зьбіраўся, хоць бы аднаго дагледзець. Напачатку думаў, што яна заблудзілася пад час паляваньня, бо сучка не выдавала на звычайнага дварняка. Раней здаралася – людзі прыязджалі, пыталіся, ці не бачылі сабаку, апісвалі яго выгляд, але на гэты раз ніхто не шукаў рудаватажоўтага сабаку. Людзі казалі, што нібыта сучку выкінулі з машыны на жвіроўцы, таму яна і лётае там цалюткія дні. Суседзі ўсё настойлівей угаворвалі мяне, і я, прызнаюся, падрыхтаваў набоі карцечы, але ўзяцца за стрэльбу рука не падымалася.

У суботу прыехалі мае гараджане. Сучка-прыблуда тут як тут. Абнюхала кожнага, у вачах засьвяцілася надзея на кавалачак хлеба, а мо і спадзяваньне на лепшы лёс.

" Што рабіць з гэтай набрыдззю?" – пабедаваў я. Суседзі ўжо галаву адурылі. Усё ва ўсіх паядае. Па куратніках шастае.

"Таму што галодная. Каб сытая была, то ў куратнікі не палезла б. Яна ж разумная. А помніш, бацька, у бабулі была сучка Пальма? Мы з Волькай, малыя, любілі з ёй гуляць. А можа, хай жыве? Рэкс яе прыняў. Якая табе розніца – аднаго сабаку карміць ці двух? Мы будзем косткі прывозіць, крывянку. Можа, хай будзе?" – угаворвала дачка.

"Розніца, канечне, ёсць. Ну, але хай жыве... Пальма".

Тыдні праз два-тры Пальму было не пазнаць. Поўсць заблішчэла, прыгладзілася, вочы перасталі сьлязіцца. Калі выносіў ёй чаропку з ядой, яна станавілася на заднія лапы, пярэднія падымала ўгору, расхідвала ўбакі, нібы хацела абняць новага гаспадара.

Але, да адзеньня не дакраналася, не тое што дварняк Рэкс, які з бруднымі лапамі лез на калені, выпрошваў ласку і харч. Сучка ахвотна адгукалася на новую мянушку, але па-ранейшаму часцяком сноўдалася паўз жвіроўку – чакала былога гаспадара.

III

Час ішоў. Пальма асвойталася, прывыкла да нас. А як прыязджалі нашы гараджане, яна аж са скуры вылузвалася ад радасьці. Тацьцяна ці ўнук Янка заўсёды прывозілі ёй гасьцінец – розныя косткі. Калі госці збіралі ся ад'язджаць, яна круцілася каля ног, ціха падвывала, а як машына кранался, бегла паперадзе. З цягам часу гэтыя праводзіны зрабіліся заўсёдным рытуалам. Яна чакала іх у канцы тыдня да позьняга вечара, выбягала насустрач, здаля адрознівала гук матора іхняй машыны. Мяне дзівіла, што, калі я ад'язджаў у горад, яна ні разу не праводзіла майго "жыгулёнка". Мабыць, быць гаспадар ездзіў на іншамарцы. А можа, адчувала, што менавіта Тацьцяна ўгаварыла мяне карміць Пальму, зьберагчы ёй жыцьцё.

З вялікай суседняй вёскі Карпавічы, дзе мелася пошта, да нас прыязджала паштарка Зіна. Жартам я называў яе – каралева Зіна, бо езьдзіла яна ў адмысловым вазку. І толькі ўзімку, калі намятала гурбы снегу, яна прыязджала ў санях. Пальма спачатку заўсёды гаўкала, калі набліжалася карэта паштаркі – каралевы. Рэкс трохі памагаў, бо ён ужо даўно прывык да гэтых візітаў, таму брахаць ленаваўся. З цягам часу прызнала паштарку і Пальма, але голас падавала заўсёды: бачыла, што я выходжу ўзяць газэты, слоік малака, заплаціць за яго, даць пусты ўзамен.

"Якая ваша Пальма разумная! Голас падае, але ніколі не набліціцца. Каня не спалохае" – дзівілася паштарка.

Месяцы праз тры, калі добра акрыяла, Пальма наладзіла вясельле. З усёй акругі зьбегліся кабялі. А праз нейкі час Пальма пачала таўсьцець, на жываце адскочылі, набрынялі саскі. Неяк уранні пачуў я жаласлівы піск з Рэксавай буды, якую змайстраваў унук Янка. Убачыў, як Пальма ласкава вылізвае шчанюка. Дзіўна было адзінае, сілу сучка яшчэ не набрала, на большае патомства не хапіла духу. Ніхто шчанюка не прасіў, я бедаваў, каму яго аддаць. На шчасце, прыехаў ляснік, яму спатрэбіўся шчанюк. Скарыстаўшы момант, я забраў малога з буды. І паехаў ён у суседнюю вёску.

О, як шукала Пальма дзіця! Абнюхала ўвесь падворак, кожны куток, бегала па наваколлі, пільна глядзела мне ў вочы, нібы прасіла-маліла: аддай маё дзіця! Сэрца маё балела ад жаласьці, але што зробіш, яшчэ адзін сабачы рот будзе залішні.



Пасля наступнага вясельля Пальма была вельмі тоўстая. На гэты раз яна не даверылася гаспадару, ашчанілася ў іншым месцы.

Неяк уранні сусед Мікола сказаў з ухмылкаю:

"У вас прыбаўка. Пальма ашчанілася. Хадзіце пакажу, дзе".

Падышлі да ягонага склепа. Шыферная страха ледзь не да зямлі, знізу Мікола напхаў для ўцяпленьня сухога кляновага лісьця, моху, папарацi. Зрабіла сучка логава прыкладна на сярэдзіне склепа, дастаць з краю не выпадала. Паклаў пад калені спяцоўкі, бо яшчэ ляжаў снег, разгроб лісце, мох, пачаў выкладваць малых піскілявых шчанюкоў у кош. Іх аказалася ажно пяцёра. Рудаватыя, чорныя, пярэстыя – прыгожыя, здаровыя шчанюкі.

Іду з кашом дамоў, каб узяць рыдлёўку, ды пакіраваць у лес. А насустрач Пальма. Пачула піск малых, кінулася да каша, грозна ашчэрылася.

"Пальма, хадзем дамоў. Тут твае малыя. Аддамо іх табе".

Пастаўлю кош ля буды, пачаў па адным даставаць шчанюкоў. Пальма, нібы гіпнацізёр, сачыла за кожным маім рухам, кожнае дзіця праводзіла гарачым, агністым паглядам. Калі кош апусцеў, Пальма шуснула ў буду, улеглася, шчанюкі навыперадкі пацягнуліся да саскоў, упіраючыся заднімі лапкамі, тыцкалі пыскамі ў цёплы матчын жывот, смакталі малачко. Шчаслівая маці пяшчотна вылізвала іх па чарзе. Колькі спрадвечнай ласкі, пяшчоты было ў кожным руху Пальмы, у яе жоўтых лагодных вачах!

IV

Забраць дзяцей ад Пальмы рука не паднялася. Шчанюкі выраслі, адно аднаго прыгажэйшыя. Разабралі іх людзі з суседніх вёсак. Ляснік расхваліў кабялька ад Пальмы, які вырас вельмі разумным, дапамагае пасвіць кароў, разумее, якую рагулю трэба па- дагнаць у статак.

Мінуў год. Болей Пальма вясельля не зьбірала, відаць, ужо мае ладны ўзрост, дый нацешылася, гадуючы пяцярых дзетак.

Неяк пасля паўдня падала голас Пальма, ляніва забрахаў Рэкс. Выйшаў я на вуліцу, да нас набліжаўся блакітны вазок паштаркі, каралевы Зіны.

"Пытаўся ў мяне адзін чалавек, ці ёсць у вас шчанюкі. Кабялька б ён узяў" – сказала Зіна, пільна пазіраючы на Пальму – "Надта ляснік хваліць сабаку, што ў вас узяў".

"Ды не, пакуль што няма. Вясельля не было. Нацешылася Пальма ранейшай сямейкай".

Расказаў Зіне, як сучка суправаджае нашых менчукоў.

"Ой, якая ў нас была гісторыя! Каб мне хто сказаў, дык бы не паверыла. А тое ў сваёй гаспадарцы адбылося. Неяк увечары даіла старую карову. Яна брыкаецца, хвастом махае, ды мне па твары. "Ах ты, ваўкарэзіна! Здадзім цябе на мяса. Цялушку пакінем". І што вы думаеце? Назаўтра стаіць спакойненька, малака дала болей. А тым часам ацялілася маладая. І ўтварыўся ў яе масьціт. Вымя цвёрдае, што камень. Давялося здаць маладую. Муж мой і кажа:

"Гэта старая карова ўпрасіла Бога, каб так зрабілася. Каб яе не пакінулі на зіму". Жывёлы ўсё разумеюць. Нават кветкі пазнаюць гаспадара. Адчуваюць яго настрой".

Сінія вочы каралевы Зіны былі задуменныя, сур'ёзныя. На гэтым мы развіталіся.

"Но, Малыш!" – тузанула паштарка лейцы.

Як толькі вазок крануўся, Пальма прыгожымі скачкамі пабегла паперадзе.

Цяпер яна праводзіць да жвіроўкі не толькі маіх мінчукоў, а і карэту паштаркі.

V

На гэтым можна паставіць кропку, але мне не давала спакою думка: як жыла Пальма раней? Якое мела імя? Хто быў ейны гаспадар? Чаму пазбавіўся ад яе? Хацелася прыдумаць жаласлівую гісторыю, і каб Пальма яе расказвала. Сюжэтны ход не новы. Узгадуся геніяльны "Холстомер" Льва Талстога: там конь апавядае пра сваё жыццё і пра свайго гаспадара. А можа, хай Пальме прысьніцца сон з ранейшага жыцьця? Але, і гэта ўжо было. Ёсць выдатнае апавяданьне Буніна "Сны Чанга": сабака сьніць сны, калі ён і яго гаспадар былі маладыя, гаспадар, капітан- марак, кахаў прыгожую жанчыну, меў дачку...

А можа, няхай будзе мой аповед з адкрытым фіналам? Ці няхай мой ласкавы чытач прыдумае гісторыю сам. І ў кожнага будзе свая гісторыя.

Мінаді дні. Апавяданне так і ляжала без канцоўкі. І тут жыццё падкінула нечаканы паварот сюжэта. Неяк вяртаюся з лесу, сабак не браў, каб яны там не шкодзілі. Сядзіць на лавачцы суседка баба Юля, каля ейных ног Пальма. Павіталіся. Сучка падбегла да мяне, заматляла хвастом, неяк вінавата пазірала мне ў вочы.

"Прысядзьце, Кірэевіч. Перадыхніце трохі".

Адмаўляцца не выпадала. Прысеў.

"Гэта ж я прыкармліваю іншы раз Пальму. Застаецца, бывае, суп ці каша. Не выкідаць жа ў гной. Паклічу, яна прыбягае. Дзеці, унукі да яе прывыклі. Можа, вы яе не карміце, дык яна часцей будзе ў мяне. Усё-такі жывая душа на падворку. І будка ёсцека. У нас некалі была Джуля, дык машына збіла... А мо пазычце мне чаропку, у якой Пальме даяце есці, дык яна ёсць пойме..."

Я пагадзіўся з прапановай бабы Юлі, міжволі прыгадаў, як суседка ўгаворвала мяне застрэліць сучку-набрыдзь. Цяпер Пальма днявала і начавала на Юльчыным падворку. Да нас прыбягала, калі прыязджала паштарка Зіна.

У пятніцу Пальма чакала маіх гараджан. Нават калі яны прыязджалі позна, яна ні разу не прапусціла іх без увагі. І начавала ў нас. Надвячоркам, у нядзелю, калі Тацьцяна, Янка і Сяргей збіраліся ад'язджаць, Пальма займала стартавую пазіцыю.

"Ну што, эскорт гатовы?" – Тацяна чухала сучку між вушэй.

Пальма радасна матляла хвастом, высалапіўшы доўгі фіялетава-чырвоны язык, а жоўтыя вочы зьзялі ад шчасьця. Машына кранулася, Пальма прыгожа, з годнасцю, высокімі скачкамі, імчала паперадзе.

*2008*

**22 лютага ў Вашынгтоне прайшла дыскусія на тэму "Перспектывы свабоды выяўленьня ў Расеі і Беларусі". Яна была арганізаваная праваабарончай арганізацыяй "Міжнародная амністыя ЗША"**

Для ўдзелу ў дыскусіі былі запрошаныя эксперты-праваабаронцы Меліса Хупер (арганізацыя Human Rights First), Натальля Арно (Фонд «Свободная Россия»), старшыня каардынацыйнай групы па Эўразіі "Міжнароднай амністыі ЗША" Вячаслаў Бортнік, Валеры Кавалеўскі (Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне), беларускі журналіст Франак Вячорка. Удзельнікі мерапрыемства абмяркавалі пагрозы, з якімі сутыкаюцца актывісты, журналісты і праваабаронцы ў Расеі і Беларусі, якія выступаюць з крытыкаю ў адрас уладаў сваіх краінаў.



# Дыскусія ў Вашынгтоне

У прыватнасьці, старшыня каардынацыйнай групы па Эўразіі "Міжнароднай амністыі ЗША" Вячаслаў Бортнік паскардзіўся, што з 2012 году экспертам гэтай арганізацыі адмаўляюць ва ўездзе ў Беларусь. Беларускія ўлады таксама чыняць перашкоды ў працы спецдакладчыка ААН па правах чалавека і прадстаўнікам іншых арганізацый.

Адказваючы на пытаньне пра быццам бы нейкую лібералізацыю ў Беларусі, Франак Вячорка сказаў: " Я не быў бы вельмі аптымістычным". Ён заўважыў, што для людзей, якія так доўга жывуць ва ўмовах дыктатуры, любое маленькае паслабленьне робіцца падставаю для аптымізму.

Па меркаваньнях удзельнікаў дыскусіі вялізны ўплыў на актывізацыю палітычнага жыцьця ў Беларусі аказалі падзеі 2014 году ва Украіне. Беларускае кіраўніцтва адчула пагрозу звонку і было вымушанае пайсьці на дробныя саступкі ( аслабленьне рэпрэсій, вызваленьне палітвязьняў, мягкая беларусізацыя), тым самым як бы прапанавала апанентам адкінуць крытыку ўлады перад больш сур'ёзнаю пагрозаю - перспектывай страты сувэрэнітэта краіны. Праваабаронцы лічаць, што пытаньне пра выбар паміж дэмакратычнымі свабодамі і сувэрэнітэтам не можа быць пастаўленае, гэтыя справы ўзаемазьвязаныя і не могуць існаваць асобна.

Як выказаўся Валеры Кавалеўскі, многія беларусы, якія жывуць у ЗША, не маглі не заўважыць відавочных паралеляў паміж цяперашняй сытуацыяй у Злучаных Штатах і фактамі з нядаўняй расейскай і беларускай гісторыі: напады на незалежную прэсу і судовую сістэму, непрыняцьце альтэрнатыўных пунктаў погляду. Як горка пажартавалі ўдзельнікі дыскусіі, не выключана, што ў бліжэйшай будучыні ўжо амэрыканскім праваабаронцам давядзецца браць урокі выжываньня ў расейскіх і беларускіх актывістаў.

Асаблівую трывогу прысутных выклікалі заявы прэзыдэнта Трампа пра намер наладзіць кантакты з Уладзімірам Пуціным, што не нясе нічога добра для праваабарончых рухаў у Расеі і суседніх з ёю краінах.

Мерапрыемства ў Вашынгтоне супала з публікацыяй дакладу "Пра сытуацыю з правамі чалавека ў 2016-2017 гадох", прэзентацыя якога адбылася ў парыжскім офісе "Міжнароднай амністыі". У дакумэнце жорстка раскрытыкаваныя праваабаронцамі ўрады розных краінаў сьвету. Асобная частка прысьвечаная сытуацыі ў Беларусі. На думку аўтараў дакладу сьвет у 2016 годзе станавіўся ўсё больш змрочным і ўсё менш стабільным, а палітыкі ў сваім жаданьні ўтрымаць уладу ўсё часьцей выкарыстоўвалі згубную ксенафобскую рыторыку падзелу на сваіх і чужых.

***Вячаслаў Бортнік***
*Вашынгтон*

# Юбілей мастака Лёніка Тарасевіча



Вядомы беларускі мастак з Беласточчыны адзначае свой слаўны 60-гадовы юбілей.

Лёнік Тарасевіч (Leon Tarasewicz) беларус па паходжанні, нарадзіўся 14 сакавіка 1957 у вёска Валілы Беластоцкага павета Падляскага ваяводства Польшчы.

Скончыў ліцэй у Супраслі, а ў 1984 годзе факультэт жывапісу ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Дыпломную працу выканаў пад кіраўніцтвам Тадэвуша Дамініка.

З 1996 года Лёнік Тарасевіч выкладае ў Акадэміі жывапісу. Падкрэслівае сваё беларускае паходжанне і бярэ актыўны ўдзел ў жыцці беларускай дыяспары ў Польшчы. Адзін з заснавальнікаў штогадовага беларускага фестывалю «Басовішча». Супрацоўнічае з галерэяй Варшаўскай Фоксал, Познанскай галерэяй Эга, а таксама з Люблінскай галерэяй Белая. Неаднаразова ўдзельнічаў у мастацкіх выставах у Беларусі (IN-FORMATION 95 і іншыя).

У апублікаваным рэйтынгу 2008 году найдаражэйшых польскіх мастакоў на аўкцыёнах у Польшчы Тарасевіч займаў 10 пазіцыю: за ягоную карціну, напісаную ў 1985 годзе, калекцыянер заплаціў 150 тысяч злотых (блізу 45 000 еўра).

Ад амэрыканскай беларускай грамады мы вiншуем слаўнага творцу з юбілеем і жадаем доўгага плённага творчага шляху на будучыню, а таксама быць і надалей такім жа актыўным удзельнікам беларускага грамадзкага і культурнага жыцьця ў Польшчы.

**Бруклінскі аддзел БАЗА віншуе сяброў Аддзелу Натальлю Федарэнка і Сяргея Кіяткіна з нараджэньнем іх першай дачушкі Іванкі, зычым маладым бацькам шчасьлівага сямейнага жыцьця, шмат радасьці ад бацькоўскіх клопатаў, а маленькай беларусачцы доўгага і сьветлага жыцьцёвага шляху.**

**Вашынгтонскі аддзел БАЗА віншуе:**

- **Алесю Кіпель з 60-годдзем;**
- **Сям'ю Барысевіч з народзінамі дачкі Одры;**
- **Марыну Іваноўскую з атрыманьнем амэрыканскага грамадзянства.**

**Выказваем спачуваньне сям'і з Нью Джэрзі Лёрэйн і Юркі Кіпеля у сувязі з адыходам у вечнасьць іхняга бацькі і цесьця Аляксандра.**

**Выказваем спачуваньне сяброўцы БАЗА з Нью-Ёрка сп. Іне Фанскай з нагоды сьмерці ейнага брата.**

**На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| **Тамара Белямук** | **$60** |
| **Кастусь Вайцяхоўскі** | **$50** |
| **Аляксандр і Наташа Вакуліч** | **$50** |
| **Кацярына Вініцкі** | **$50** |
| **Яўген і Вольга Кабяка** | **$50** |
| **Элеанора Норык** | **$50** |
| **Андрэй Пучок** | **$50** |
| **Уладзімір Ракуць** | **$100** |
| **Галіна Руднік** | **$100** |
| **Яўген Ткачук** | **$50** |
| **Джон Шыбут** | **$50** |
| **Ганна Шыдлава** | **$50** |
| **Дзьмітры Эльяшэвіч** | **$100** |

**Вельмі, вельмі дзякуем усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае:**
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**ISSN 1054-9455**
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published by**
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**

Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*

Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*

Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*

Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**

Паштовы адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**

Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**

Камп'ютарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***

*Грашовыя чэкі выпісваць на імя:*
***BIELARUS Newspaper***
*і дасылаць скарбніку на паштовы адрас Рэдакцыі.*

***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***